Гродна
№2(437),
24 студзеня 2016

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ





# ФІГУРКІ ЖЫВЁЛ У ДОМЕ ХРЫСЦІЯНІНА: ЯКІ СЭНС?

*“Абагаўленне вогненнай малпы”* працяг на с. 4

# МАЛІТВА Ў ДУХУ TAIZE – АСАБЛІВАЯ




*Сустрэчы Taize прызначаны для тых, хто любіць малітву і роздум*

*Больш за 150 маладых католікаў з Беларусі прынялі ўдзел у XXXVIII Еўрапейскай сустрэчы моладзі “Пілігрымка даверу па зямлі”. Спатканне, арганізаванае экуменічнай супольнасцю Taize, адбывалася з 28 снежня па 1 студзеня ў іспанскай Валенсіі. Уражаннямі ад паездкі дзеліцца Вольга Сяліцкая з Гродна.*

● працяг на с. 5

## Каляндар падзей

***25 студзеня***
*свята Навяртання св. апостала Паўла. Заканчэнне Тыдня малітвы аб адзінстве хрысціян.*

***26 студзеня***
*Сусветны дзень малітвы ў інтэнцыі пракажоных.*

***1 лютага***
*2-я гадавіна біскупскіх пасвячэнняў кс. б-па Юзафа Станеўскага.*

***2 лютага***
*свята Ахвяравання Пана. Заканчэнне Года кансэкраванага жыцця.*

***3 лютага***
*ўспамін св. Блажэя.*

***5 лютага***
*ўспамін св. Агаты.*

## Запрашаем!

***Праграма каталіцкай рэдакцыі***

***“Голас Евангелля”***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

## Ружанцовыя інтэнцыі:

***Люты***

*За новыя парафіяльныя супольнасці і касцёлы, якія будуюцца ў дыяцэзіі.*

*Аб узросце адказнасці сярод вернікаў за свае парафіі і касцёлы.*

## Інтэрнэт-апытанне www.grodnensis.by

***Ці можаце Вы сказаць, колькі было святых Евангелістаў?***

- *адзін*
- *тры*
- *чатыры*
- *шэсць*
- *дванаццаць*
- *цяжка сказаць*


**выкажыся**

**“Бог не абмяжоўваецца знешнім, Ён бачыць сэрца чалавека” – папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### III НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Лк 1, 1–4; 4, 14–21**

Паколькі многія браліся скласці апавяданне пра падзеі, якія адбыліся сярод нас, як передалі нам тыя, хто ад пачатку быў відавочцам і слугою слова, вырашыў і я дакладна прайсціся па ўсім ад пачатку і апісаць табе ўсё па парадку, найшаноўнейшы Тэафіле, каб ты пазнаў праўдзівасць таго, чаму ты быў навучаны.

У той час: Езус вярнуўся ў моцы Духа ў Галілею і разышліся чуткі пра Яго па ўсёй ваколіцы. Ён навучаў ва ўсіх сінагогах, і ўсе Яго славілі. І прыйшоў Ён у Назарэт, дзе быў выхаваны, і ўвайшоў паводле свайго звычаю ў дзень суботні ў сінагогу, і ўстаў, каб чытаць. Яму падалі кнігу прарока Ісаі. Ён, разгарнуўшы кнігу, трапіў на месца, дзе было напісана: “Дух Пана на Мне; бо Ён намасціў Мяне абвяшчаць добрую навіну ўбогім, паслаў Мяне абвяшчаць вызваленне палонным, і сляпым вяртаць зрок, каб выпусціць спакутаваных на свабоду, каб абвясціць год ласкі Пана”. Закрыўшы кнігу, Ён аддаў яе слузе і сеў. А вочы ўсіх у сінагозе былі скіраваныя на Яго. І Ён пачаў гаварыць ім: “Сёння споўніліся гэтыя словы Пісання, якія вы чулі”.

### ГІСТОРЫЯ СТВАРАЕ БУДУЧЫНЮ

Колькі ж людзей на прасторы вякоў учытвалася ў апісаную св. Лукой гісторыю... Ад тых падзей мінулі стагоддзі. Змяніліся часы і абставіны вывучэння Евангелля. Нават у спосабе яго перадачы: евангелісты схіляліся над скруткамі папірусу. Сёння тыя, хто абвяшчае Евангелле, маюць у распараджэнні інструменты, якія не сніліся іх папярэднікам. А акрамя гэтых вялікіх змен, найважнейшай надалей застаецца постаць Настаўніка з Назарэта, які раскрывае перад намі – сучаснымі слухачамі – кнігу прарока Ісаі і запэўнівае, што Добрая Навіна і сёння прыносіць вязням і прыгнечаным свабоду, сляпым – зрок, а ўсім – Божую ласкавасць. І няма моцы, якая магла б гэта змяніць!

### IV НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Лк 4, 21–30**

Езус пачаў гаварыць у сінагозе: “Сёння споўніліся гэтыя словы Пісання, якія вы чулі”. І ўсе сведчылі Яму і здзіўляліся словам ласкі, якія выходзілі з вуснаў Ягоных, і казалі: “Ці не сын Юзафа гэта?”. І Ён сказаў ім: “Напэўна, скажаце мне такую прыказку: лекар, вылечы самога сябе; зрабі і тут, у тваёй бацькаўшчыне тое, што, як мы чулі, сталася ў Кафарнауме”. І сказаў: “Сапраўды кажу вам: ніводзін прарок не з’яўляецца пажаданым на сваёй бацькаўшчыне. Па праўдзе кажу вам: шмат ўдоваў было ў Ізраэлі ў дні Іллі, калі зачыненым было неба тры гады і шэсць месяцаў, так што быў вялікі голад па ўсёй зямлі. І да ніводнай з іх не быў пасланы Ілля, а толькі да жанчыны, удавы, у Сарэпту Сідонскую. Шмат таксама было пракажоных у Ізраэлі ў часы прарока Елісея, і ніводзін з іх не быў ачышчаны, апрача Наамана Сірыйца”. Пачуўшы гэта, усе ў сінагозе напоўніліся гневам і, устаўшы, выгналі Яго прэч з горада, і павялі на вяршыню гары, на якой быў пабудаваны іх горад, каб скінуць Яго. Але Ён, прайшоўшы паміж іх, адышоў.

### ПРАЎДА БЕЗ КАМПРАМІСАЎ

Поўная драматызму сустрэча ў сінагозе: яўрэі адрэагавалі на словы Езуса захапленнем, а адразу ж пасля гэтага гатовы былі забіць Яго. Езус дасканала ўсведамляў тое неразуменне, з якім Яму давядзецца сутыкнуцца. Але нягледзячы на гэта, Ён не шукаў лёгкіх, прыгожых слоў для таго, каб супакоіць эмоцыі. Праўда, якую Ён абвяшчаў, не магла быць перададзена таемна. Ён выказваў праўду ясна, можа, нават занадта зразумела, бо яна закранала слухачоў за жывое. Так Ён распачаў сваё вучэнне і падобным чынам скончыў яго. Нават фарысеі пераканаліся, што Ён гатовы заплаціць найвышэйшую цану за свае словы. Езус і сёння працягвае навучаць у свеце праз сваіх непакорных вучняў, гатовых на ўсе наступствы, звязаныя з адважным абвяшчэннем праўды. Хай бы іх было як мага больш!

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*



## СЛОВА РЭДАКТАРА

*Кс. Павел Салабуда*

# Радасць жыцця з Езусам

*Апошнім часам складваецца такое ўражанне, што людзі маюць усё менш нагод для радасці. Штодзённае жыццё, поўнае абавязкаў, клопатаў і цяжкасцей, не дадае чалавеку аптымістычнай надзеі на лепшае заўтра. Умовы, якія мы стараемся ствараць адзін аднаму, не суцяшаюць, а таму і прычын, каб радаваца, усё менш. Больш таго, мы забываемся, што ў Касцёле такіх прычын для радасці ёсць вельмі шмат, можна нават сказаць, што Касцёл з'яўляецца своеасаблівым асяроддзем радасці, якая дазваляе чалавеку "лётаць" па зямлі. Якую радасць я маю на ўвазе?*

Перш за ўсё, варта ўсвядоміць, што Касцёл – гэта не тэатр і не цырк, а святая Імша – не прадстаўленне. Але разам з тым Касцёл не з'яўляецца месцам катаванняў ці накладання на сябе пакаяння. Касцёл – гэта асаблівае месца радаснай сустрэчы з Езусам. Менавіта такой павінна быць сустрэча Збавіцеля з чалавекам, які не знаходзіць лепшай прычыны для радасці, акрамя выратавання свайго жыцця, сваёй душы ад таго, што знявольвае, падпарадкоўвае, не дае нагод для радасці. Менавіта ў стане граху чалавек ніколі не адчуе сапраўднай радасці, ніколі не будзе вольны, ён заўсёды падпарадкаваны д'яблу. Знаходзячы Хрыста ў святыні, кожны з нас знаходзіць радасць для жыцця, для лепшага заўтра.

Сустрэча з Хрыстом можа даць нам яшчэ адну з галоўных каштоўнасцей – радасць, нібы звычайную чалавечую радасць, але наколькі важную. Чалавек павінен цешыцца сустрэчай з Хрыстом, быць задаволеным сваім жыццём і сваімі дзеяннямі. Гэтая радасць праяўляецца ў добрым настроі, добразычлівасці да ўсіх, асабістай культуры і г.д. Святы Тамаш сцвярджае, што чалавек павінен быць радасным і ўмець адпачываць, і тады ён будзе спагадлівы адносна іншых і будзе добра працаваць.

Езус нарадзіўся ў бэтлеемскай стайні, каб прынесці чалавецтву радасць. Аб гэтым узгадвае падчас аднаго са сваіх разважанняў папа Францішак: “Чалавечае сэрца прагне радасці. Кожная сям'я, кожны народ імкнецца да шчасця. Але што гэта за радасць, перажываць якую і сведчыць аб якой пакліканы хрысціянін? Гэта радасць, якая паходзіць з блізкасці Бога, з Яго прысутнасці ў нашым жыцці. З моманту, калі Езус увайшоў у гісторыю праз сваё нараджэнне ў Бэтлееме, чалавецтва атрымала зярнятка Божага Валадарства, як глеба, на якую кінута зерне, што абяцае будучы ўраджай. Ужо не трэба шукаць дзесьці яшчэ! Езус прыйшоў, каб прынесці радасць усім і назаўсёды”.

**Калі чалавек паспрабуе адчуць блізкасць Бога, Яго прысутнасць у жыцці кожнага з нас, жыццё складзецца лепш, будзе больш нагод для радасці.**

**Давайце паспрабуем знайсці ў Касцёле радасць, у Евангеллі – надзею, а ў Хрысце – збаўленне.**

# Няцеч

ДЭКАНАТ ЛІДА

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*



*Знешні выгляд святыні*

Касцёл, першапачаткова асвечаны пад тытулам Пана Езуса, быў заснаваны тут у 1715 г. лоўчым Калушэўскім, дзедзічам Няцечы. Апошні будынак святыні, асвечаны пад тытулам Міхала Арханёла, пабудаваны з дрэва на цагляных пабеленых слупах на старых могілках у 1837 г. (капітальна перабудаваны, а на ўваходным камяні-прыступку перад дзвярыма ў сакрыстыю адзначаны 1821 год) у стылі класіцызму маршалкам Станіславам Ласковічам, лідскім павятовым старастам. Святыня дзейнічае і сёння. Да 1860-х гг. пры касцёле існавала парафіяльная школа, а таксама шпіталь, які фундавалі Францішка Буржымоўская, кс. Носевіч і кс. Сіпайла. Да гэтага ж часу існавала і капліца на могілках.

Касцёл пабудаваны ў цэнтры вёскі, арыентаваны алтаром на ўсход. Святыня прамавугольная ў плане з трохграннай алтарнай часткай, перакрытая двухсхільным металічным дахам з вальмамі над алтаром. Галоўны фасад вырашаны ў выглядзе чатырохкалоннага порціка (тут слупы круглыя ў сячэнні), кампазіцыя завершана невялікай двух'яруснай вежачкай над уваходам і сігнатуркай над прэсбітэрыем.

Унутраная прастора падзелена чатырма слупамі на тры навы, цэнтральная з якіх (а таксама і паніжаны прэсбітэрый) перакрыта цыліндрычным падшыўным дашчатым скляпеннем, бакавыя навы – плоскай падшыўной столлю. Унутраныя перагародкі вылучаюць у алтарнай частцы дзве сіметрычныя сакрысціі. Інтэр'ер упрыгожваюць тры алтары. Галоўны алтар уяўляе сабою велічны барокавы табернакль у атачэнні фігур святых Антонія і Юзафа, над ім змешчаны абраз Святой Сям'і. Бакавыя алтары трактаваны як дзвюхкалонныя мураваныя дарычныя порцікі, левы – Маці Божай Вастрабрамскай, правы – Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Над уваходам зроблены хоры на двух слупах.

Касцёльны ўчастак абнесены бутавай агароджай з уваходнай брамай у выглядзе чатырох цагляных атынкаваных слупкоў. Злева ад касцёла, у куце ўчастка, стаяла двух'ярусная драўляная званіца, якую ў першай трэці XX ст. змяніла цагляная і атынкаваная, трох'ярусная, накрытая чатырохсхільным дахам з глаўкай. Перад касцёлам у 1990 г. айцы рэдэмптарысты ўсталявалі высокі драўляны вулічны крыж.

Перад II Сусветнай вайной парафія налічвала амаль 4000 вернікаў. У 1943 г. фашысты расстралялі мясцовага пробашча кс. Аляксандра Аўгусціновіча разам з іншымі васьмю каталіцкімі святарамі з ваколіц Ліды.

Пасля вайны касцёл быў зачынены. Вернуты парафіянам у 1989 г. У 1990 г. святыню, ужо аб'яўленую помнікам архітэктуры, рэстаўравалі намаганнямі тагачаснага пробашча навагрудскай парафіі, а цяпер біскупа Антонія Дзям'янкі.

Да парафіі па-ранейшаму належыць капліца ў в. Бахматы. Цікава мясцовая традыцыя будаўніцтва прыдарожных каплічак на участках перад хатамі ў выглядзе драўляных слупкоў з завяршэннямі "домікамі" з укрыжаваннем ці фігуркай Маці Божай.



*Галоўны алтар*

# КУЛЬТ БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ

***У мінулым нумары “Слова Жыцця” былі па пунктах разгледжаны чатыры формы культу Божай міласэрнасці: абраз Езуса Міласэрнага, свята Божай міласэрнасці, Вяночак да Божай міласэрнасці і Гадзіна міласэрнасці. Сёння паразважаем над пятай, заключнай і вельмі важнай формай культу – распаўсюджваннем шанавання Божай міласэрнасці.***

Каб служыць справе збаўлення, трэба пастаянна спасцігаць гэтую прыгожую таямніцу веры: разважаць над міласэрнасцю Бога, выяўленай у сакрамантах, звяртацца да Святога Пісання і ўвесь час імкнуцца разледзець праявы Божай любові ва ўласным жыцці і ва ўсім свеце.

Яскравым прыкладам такога існавання з’яўляецца жыццё святой сястры Фаустыны, якая прыйшла да ўсведамлення, што ўсё добрае ў чалавечым жыцці зыходзіць з міласэрнай любові Бога. “Твая міласэрнасць, – пісала яна ў сваім «Дзённіку», – як залатая нітка, што праходзіць праз усё нашае жыццё, захоўвае сувязь нашай існасці з Богам, і паколькі Яму для шчасця нічога не трэба, то ўсё гэта – толькі справа Яго міласэрнасці” (Дз. 1466).

Але аднаго інтэлектуальнага пазнання гэтай праўды недастаткова, ёю трэба жыць штодня. Хрыстос заклікаў сястру Фаустыну не толькі разважаць над Яго міласэрнасцю, але і шанаваць яе шляхам міласэрных спраў у адносінах да бліжніх. “Дачка Мая, – казаў Ён, – глядзі ў Маё літасцівае Сэрца і адлюстроўвай Яго міласэрнасць у сваім сэрцы і ўчынках, каб ты, абвяшчаючы свету аб Маёй міласэрнасці, сама гарэла ёю” (Дз. 1688). Чалавек, які пры любой магчымасці робіць дабро іншым, з’яўляецца жывым вобразам Божай міласэрнасці. Прыклад жыцця ў духу міласэрнасці з’яўляецца першым і галоўным спосабам распаўсюджвання гэтага цудоўнага культу.



Другім спосабам з’яўляецца пропаведзь словам. Гэта не абавязкова публічныя выступленні, катэхеза, паведамленні ў СМІ, выпуск друкаваных выданняў і інш. Мы прапаведуем праз асабістыя кантакты з людзьмі ў сваіх размовах, у інтэрпрэтацыі фактаў і падзей, у тлумачэнні звычайных з’яў праз перспектыву веры.

Надзвычай важна перадаваць святое пасланне дакладна, клапаціцца аб чысціні шанавання міласэрнасці ў формах, перададзеных нам сястрой Фаустынай. У сувязі з тым, што культ Божай міласэрнасці набыў у свеце вялікую папулярнасць, з’явілася шмат спрошчаных публікацый, якія памылковым чынам апісваюць сутнасць шанавання міласэрнасці Бога. А гэта прыводзіць да скажоных практык культу.

Трэці спосаб распаўсюджвання шанавання міласэрнасці – гэта малітва. Праслаўленне Бога ў таямніцы Яго міласэрнасці адбываецца праз літургію Касцёла, праз індывідуальнае пакланенне абразу Езуса Міласэрнага, чытанне Вяночка да Божай міласэрнасці ці малітвы ў Гадзіну міласэрнасці.

Усе, хто прымае пасланне Божай міласэрнасці, пакліканы прасіць ласкі для грэшнікаў, бо тыя знаходзяцца ў самым адчайным становішчы і больш за ўсіх патрабуюць памілавання. “Ты заўсёды радуеш Мяне, калі молішся за грэшнікаў, – казаў Гасподзь сястры Фаустыне. – Найбольш прыемная Мне малітва за навяртанне грэшнікаў. Ведай, дачка Мая, што гэтая малітва заўсёды бывае пачутая” (Дз. 1397). Усявышні нічога так не жадае, як збаўлення ўсіх людзей, таму што кожнага чалавека Ён стварыў з любові, за кожнага Езус аддаў жыццё. Таму такая малітва заўсёды згодна з воляй Бога.

Асаблівая просьба Госпада датычыць малітвы за тых, хто адыходзіць з гэтага свету. “Маліся, колькі можаш, за паміраючых, – звяртаўся да Фаустыны Хрыстос, – выпрошвай для іх веру ў Маю міласэрнасць, таму што яны больш за ўсё патрабуюць веры, але менш за ўсё валодаюць ёю. Ведай, што ласка вечнага выратавання некаторых душ у апошні момант залежыць ад тваёй малітвы” (Дз. 1777).

Малітоўнай падтрымкі патрабуюць і душы, якія знаходзяцца ў чысцы, а таксама святары і кансэкраваныя асобы – тыя, хто вядзе народ Божы шляхам выратавання. Хоць Бог і не пералічвае падрабязна ўсе катэгорыі людзей, якія маюць патрэбу ў малітве, відавочна, што выпрошванне міласэрнасці датычыць усяго свету. “Напішы: перш чым Я прыйду як справядлівы Суддзя, Я адкрываю насцеж дзверы Маёй міласэрнасці. Хто не хоча прайсці праз дзверы міласэрнасці, той павінен прайсці праз дзверы Майго правасуддзя” (Дз. 1146).

Асаблівую ролю ў выпрошванні Божай міласэрнасці адыгрывае пакута. Гасподзь ясна сказаў: “Існуе адна цана, якой адкупляюцца душы – гэта пакута, злучаная з Маёй пакутай на крыжы” (Дз. 324). Варта злучаць сваю ахвяру з Хрыстом праз пост, самазмярцвенне, працу, цярпенне і малітву.

**Такім чынам, місія абвяшчэння таямніцы Божай міласэрнасці ажыццяўляецца трыма спосабамі: учынкам, словам і малітвай. Усім, хто тым ці іншым чынам далучаецца да перадачы паслання, Хрыстос абяцае: “Душы, якія распаўсюджваюць шанаванне Маёй міласэрнасці, Я абараняю на працягу ўсяго жыцця, як клапатлівая маці – сваё немаўля, і ў гадзіну смерці Я буду для іх не Суддзёю, а міласцівым Збавіцелем” (Дз. 1075).**

***Ангеліна Пакачайла***

СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*У Святым Пісанні Бог прадстаўлены як “Бог міласэрны”. Гэта імя, праз якое Ён адкрывае нам сваё аблічча і сэрца. Ён сам, паводле Кнігі Зыходу, аб’яўляючыся Майсею, акрэслівае сябе наступным чынам: “Пан, Пан Бог міласэрны і літасцівы, доўгацярплівы і шматміласцівы, і праўдзівы” (34, 6). Таксама і ў іншых тэкстах мы можам знайсці гэтую формулу, з пэўнымі зменамі, але націск заўсёды падае на міласэрнасць і любоў Бога, які нястомна прабачае.*

*Пан “міласэрны”: гэтае слова выклікае стаўленне пяшчотнага клопату, такога, якім маці ахінае сваё дзіця. Сапраўды, яўрэйскае слова, выкарыстанае ў Біблії, схіляе нас да думкі аб нечым унутраным, а таксама аб улонні маці. Таму яно прапануе вобраз Бога неабыякавага, які паказвае нам свае пачуцці, як маці, калі бярэ на рукі сваё дзіця, жадаючы толькі любіць яго, абараняць, дапамагаць, гатовая аддаць яму ўсё, нават саму сябе. Гэта любоў, якая можа быць апісана, у добрым сэнсе, як кранаючая да глыбіні.*

*Агульная аўдыенцыя Святога Айца, 13.01.2016 г.*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Мы знаходзімся ў касцёльным чаўне на ўзбураных хвалях акіяну XXI стагоддзя. Часам здаецца, што хвалі секулярызму знішчаць Касцёл і мы ўсе загінем у моры бязбожжа. Але падобна было і ў часы ганенняў на Касцёл. Тады здавалася, што са смерцю апошняга святара настане канец Касцёла. Аднак Бог меў іншыя планы, і мы сталі не толькі сведкамі, але і ўдзельнікамі працэсу адраджэння Касцёла пасля трох пакаленняў атэізацыі.*

*Адным са знакаў гэтага адраджэння з’яўляецца дабрачыннасць, якая займае вельмі важнае месца ў жыцці і служэнні Касцёла. Так было ў першыя стагоддзі жыцця Касцёла, так ёсць цяпер, так будзе да канца часоў. Нездарма Хрыстос кажа, што бедных мы будзем мець заўсёды.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас асвячэння дома сясцёр св. Вінцэнта дэ Поля (шарытак) у Мінску*

# Бог – найбольшая і найлепшая таямніца

НА СЛУЖБЕ БОГУ

***Сёння сваю гісторыю распавядае айцец Эдуард Пяцельчыц з Кангрэгацыі Найсвяцейшага Адкупіцеля.***



## Побач з Касцёлам

Айцец Эдуард нарадзіўся ў Гродне ў каталіцкай сям’і. Тата працаваў вадзіцелем грузавіка, а мама – у бухгалтэрыі. Пазней яна пакінула прафесійную кар’еру і поўнасцю прысвяціла сябе сям’і, у якой выхоўвала дачку і чатырох сыноў.

*„Рэлігійныя вартасці заўсёды мелі для маіх бацькоў вельмі вялікае значэнне ў выхаванні дзяцей”.*

Хлопец быў ахрышчаны ў адзіным дзейсным тады ў Гродне касцёле Адшукання Святога Крыжа ксяндзом інфулатам Міхалам Арановічам. У гэтым жа касцёле праз дзевяць гадоў ён упершыню прыступіў да сакраманту споведзі і св. Камуніі.

Будучы дзіцём, удзельнічаў у занятках катэхезы, якую праводзілі сёстры назарэтанкі. Пасля заснавання парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне на Дзевятоўцы развіццё рэлігійнага жыцця перанеслася туды. Ва ўзросце трынаццаці гадоў хлопец атрымаў там сакрамант хрысціянскай сталасці.

*„Мой жыццёвы шлях заўсёды прабягаў побач з Касцёлам. Па меры магчымасці я спрабаваў удзельнічаць у жыцці парафіі. Доўгі час быў міністрантам”.*

Але будучы маладым хлопцам айцец Эдуард ніколі не думаў, што можа быць як айцы рэдэмптарысты, якія служылі ў парафіі. У яго былі розныя планы на жыццё. Амаль як кожнае дзіця той эпохі, ён хацеў быць касманаўтам. З хуткасцю святла дзіцячыя мары міналі, і з’яўляліся новыя планы: вадзіцель, аўтамеханік і г.д.

## Пражыць жыццё добра

Скончыўшы сярэднюю школу, хлопец паступіў у Гродзенскі політэхнічны каледж на спецыяльнасць будаўніка. Пасля доўга разважаў і ў 2005 годзе прыняў рашэнне паступаць у семінарыю рэдэмптарыстаў. Спярша прызнаўся аб сваім намеры катэхету, а толькі потым бацькам.

*“Я не магу сказаць, што пачуў голас: «Пакінь цэглу і раствор і ідзі ў манастыр». Так, хутчэй, не бывае ў жыцці. Пан Бог неяк падчас нашага жыцця дае пэўныя знакі, што памятае пра нас і прапануе штосьці іншае, чым мы сабе запланавалі. Думаю, што гэта таксама таямніца для нас, каб нікога не ахапіла пыха, каб мы пакорна схілілі галаву перад планам Бога на сваё канкрэтнае жыццё”.*

Тагачасны катэхет хлопца айцец рэдэмптатыст Станіслаў Станеўскі не перашкаджаў яму ў рашэнні ісці ў семінарыю, а наадварот, дапамог скантактавацца з айцом правінцыялам Варшаўскай правінцыі рэдэмптарыстаў і паразмаўляць з ім.

*“Бацькі таксама прынялі маё рашэнне. У гэтай сітуацыі іх мудрасць падказала вельмі важныя для мяне тады словы: «Гэта тваё адзінае жыццё, і ты павінен пражыць яго добра». Думаю, калі маеш такія словы ў сэрцы, гэта матывуе да іх рэалізацыі”.*

## Цудоўны час пазнання

У 2005 годзе хлопца прынялі ў ВДС рэдэмптарыстаў. Першыя два гады ён правёў у Кракаве. Гэта быў час пастулята і адначасова вывучэння філасофіі. Пасля гэтага ён быў дапушчаны да навіцыята. 15 жніўня 2008 года склаў першыя манаскія абяцанні. Пасля іх распачаў вывучэнне тэалогіі ў ВДС рэдэмптарыстаў у Тухаве.

*“Гэта быў цудоўны час пазнання розных людзей, асоб, каталіцкіх абрадаў і нацыянальнасцей. Са мной на курсе вучыўся брат са Славакіі грэка-каталіцкага абраду. Семінарыя міжнародная, і таму ўсё гэта было магчыма”.*

15 жніўня 2011 года склаў вечныя манаскія абяцанні. Праз некалькі месяцаў стаў дыяканам. Гэтую паслугу яму ўдзяліў у Гродне ў парафіяльным касцёле на Дзевятоўцы ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч. Праз год 26 мая прыняў святарскія пасвячэнні ў Тухаве з рук ксяндза арцыбіскупа Чэлесціна Мільёрэ, Апостальскага нунцыя ў Польшчы.

## Па меры магчымасцей

Першай пляцоўкай айца Эдуарда стаў Шчэцінэк у Заходнепаморскім ваяводстве ў Польшчы, дзе ён працаваў вікарыем у парафіі. Хадзіў у школу на катэхезу, быў адказны за моладзь, служыў у парафіі. Пасля двух гадоў побыту ў Шчэцінку быў пасланы на гадавы рэкалекцыйна-місійны курс у Люблін. У мінулым годзе скончыў яго і дэкрэтам айца правінцыяла быў накіраваны ў родную парафію ў Гродна.

З сярэдзіны ліпеня мінулага года айцец Эдуард служыць у парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля на Дзевятоўцы. З’яўляецца катэхетам, займаецца з дзецьмі і старэйшай моладдзю. Таксама па меры магчымасцей спрабуе прымаць удзел у рэкалекцыйна-місійнай працы. Гэта цяжка рэалізаваць, паколькі патрэбы парафіі вельмі вялікія, але ўдаецца.

**“Кім для мяне з’яўляецца Бог? Ужо столькі мудрых людзей спрабавалі адказаць на гэтае пытанне, але на шчасце ім не ўдалося. Я ўпэўнены, што не ўдасца і мне. Заўсёды, калі чую гэтае пытанне, хачу прамаўчаць, бо што б я ні сказаў, гэта заўсёды здаецца вельмі слабым. Для мяне Бог з’яўляецца найбольшай і найлепшай таямніцай, якую я штодзённа спрабую неяк ухапіць, але толькі бачу ў гэтым сваю мізэрнасць. У гэтай таямніцы я магу толькі прыняць тыя дары, якімі Ён мяне адарыў, але не магу іх затрымаць. Калі Бог дае мне іх, значыць я пакліканы да таго, каб дзяліцца імі з іншымі”.**

***Ангеліна Пакачайла***




*◆ Чвэрць мільёна злотых перадаў цяжка хворай двухгадовай дзяўчынцы папа Францішак. Дзякуючы гэтаму, Юлія Піскорска з Польшчы змагла трапіць на лячэнне ў клініку ў ЗША. Дзяўчынка нарадзілася без малых галёначных костак, надпятачнай і пятачных костак у абедзвюх ножках. Польскія ўрачы былі бездапаможныя, як адзіны выхад прапаноўвалі ампутацыю ног. Аднак бацькі знайшлі амерыканскую клініку, якая спецыялізуецца на такіх выпадках. Сужэнства звярнулася з просьбай аб фінансавай падтрымцы да Святога Айца. Медыцынскае ўмяшанне аказалася ўдалым. Стан дзяўчынкі паступова паляпшаецца, неўзабаве яна зможа хадзіць.*

*◆ Згодна са шматгадовай традыцыяй, на свята Хросту Пана Папа Рымскі ахрысціў у Сікстынскай капэле немаўлят, якія нарадзіліся ў сем’ях ватыканскіх працаўнікоў. У гэтым годзе першы сакрамант прынялі 13 дзяўчынак і 13 хлопчыкаў. Сярод іх адзін беларус – сын супрацоўніка беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё Аляксандра Панчанкі. У гамілії папа Францішак падкрэсліў, што лепшая спадчына – гэта вера. І заклікаў бацькоў сачыць за тым, каб дзеці яе не страцілі. Дарэчы, падчас свайго пантыфікату з нагоды свята Хросту Пана Бенедыкт XVI ахрысціў 120 дзяцей, а святы Ян Павел II – 687.*

*◆ Італьянцы ініцыявалі малітоўную баталію ў абарону сям’і. Яна распачалася ва ўрачыстасць Аб’яўлення Пана і працягнецца да канца лютага. Менавіта ў гэты час італьянскі парламент збіраецца ўвесці новы закон, які прыраўнівае гомасексуальныя саюзы да сужэнстваў і дазваляе ім усынаўляць дзяцей. Акцыя “Гадзіна варты” сустрэла незвычайны водгук. Аб удзеле паведамілі некалькі дзясяткаў тысяч чалавек, якія вырашылі прызначыць гадзіну ў дзень на малітву ў інтэнцыі сям’і. Некаторыя далучаюць да гэтага дзённы пост. Ініцыятыва скіравана да індывідуальных асоб, але таксама і да цэлых супольнасцей, парафій, манаскіх кангрэгацый.*

*◆ З нагоды юбілею хросту Польшчы будуць адноўлены прыдарожныя капліцы, крыжы і фігуры святых. Ян Бонк з Зялёнкі палічыў, што варта паклапаціцца аб сімвалах веры. “Яны прыгадваюць важныя рэлігійныя ці гістарычныя падзеі, хтосьці ставіў іх з выразнай малітоўнай інтэнцыяй як знак падзякі або прымірэння, а праз столькі гадоў яны адыходзяць у няпамяць, іх стан пагаршаецца, паступова яны знікаюць з нашага акружэння”, – сказаў ініцыятар. Ён прапанаваў людзям арганізавацца лакальна, запрасіць суседзяў, знаёмых і супольнымі сіламі адрэстаўрыраваць тое, што патрабуе ратунку.*

*◆ Маладая манахіня выступае ў адным з рымскіх тэатраў у мюзікле “Sister Act”, выконвае адну з галоўных роляў – паслушніцу Марыю Раберту. Спектакль пастаўлены па амерыканскай камедыі з Вупі Голдберг “Сястра, дзейнічай”. У 2014 годзе сястра уршулянка Крысціна Скучыя выйграла тэлевізійнае шоу талентаў “The Voice of Italy” (“Голас Італіі”), уразіўшы слухачоў сваёй харызмай і здольнасцю неардынарна даносіць Божае слова.*

*credo-ua.org; gosc.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

● працяг са с. 1

# Абагаўленне вогненнай малпы

*На працоўным месцы начальніка часта можна ўбачыць фігурку савы, якая сімвалізуе мудрасць і разважлівасць. Статуэткі буслоў з немаўлятамі нярэдка красуюцца ў спальных пакоях цяжарных жанчын або тых, хто моцна хоча мець дзяцей. Ды што тут далёка хадзіць, з пачаткам новага года ў дамах многіх з нас пасялілася вогненная малпа. Давайце ж разбярэмся, якую пагрозу для хрысціяніна нясуць фігуркі жывёл.*



Па-першае, трэба разумець, які сэнс укладаецца ва ўвасабленне жывёл у скульптурах. Калі гэта натуральная выява стварэння (іншым словам, фігура не адрозніваецца ад таго, як жывёла выглядае ў жыцці) і вы набылі яе як прадмет мастацтва, нічога дрэннага ў гэтым няма. Але калі творцы ўпрыгожваюць катоў ці сланоў кветкамі, каштоўнымі камянямі, сімвалічнымі знакамі (вянком, мячом, манетамі і інш.), то ў стварэнні фігуры можа быць задзейнічаны культ жывёлы. Купляючы такія статуэткі, вы несвядома далучаецеся да шанавання бажка.

Па-другое, важна тое, як вы самі адносіцеся да фігуркі. Калі свядома набываеце статуэтку малпы на 2016 год (згодна з усходнім календаром), то тым самым вызнаеце веру ў заступнікаў людзей на зямлі – жывёл. І нават калі аўтар не ўкладаў у сваю працу рэлігійнага сэнсу, фігурка напаўняецца ім дзякуючы вашым думкам. У той жа час, ад адказнасці не вызваляе раўнадушша, скажам, да скульптуры цмока з каронай. Грэх супраць першай запаведзі – “Не май іншых багоў апроч Мяне” – спаўна не ўсведамляецца, але ўсё роўна “залічваецца”, бо абражае Бога.

Горш, калі вы робіце такія падарункі сваім добрым знаёмым і родным. Напэўна ж, укладваеце ў іх сэнс. І жаба, якая сядзіць на манетах, або бурштынавая чарапаха не толькі не прынясуць грошай і даўгалецця людзям, якім вы іх падарылі, але і сыграюць з імі не адзін злы жарт.

Некаторыя даюць фігуркам жывёл імёны, размаўляюць з нежывымі прадметамі. Гэта таксама праявы абагаўлення. Атрымліваецца, што з інтэр’ерных упрыгожванняў статуэткі часта могуць ператварацца ў фетышы – матэрыяльныя прадметы, якім прыпісваюцца звышнатуральныя ўласцівасці.

Таму будзьце вельмі асцярожнымі, яшчэ раз перагледзьце свае паліцы. Мажліва, там знаходзяцца рэчы, якія супярэчаць вашаму хрысціянскаму светапогляду. Задумайцеся, якім сэнсам напоўнены вашы сувеніры, з якой мэтай вы змяшчаеце на самым бачным месцы фігурку той жа вогненнай малпы.

*Безумоўна, мы не можам у кожнай цаццы бачыць пагрозу і небяспеку: гэта няправільная крайнасць. Але сёння існуе мноства рознага тыпу прадметаў, у тым ліку і фігурак жывёл, якія мы прывозім з далёкіх краін як сувеніры, не паглыбляючыся ні ў іх сімволіку, ні ў рэлігійны характар (часта антыхрысціянскі). Часам мы нават не падазраём, што на іх маглі быць накладзены якіясьці закляцці. Не зважаючы на ўсё гэта, мы змяшчаем такія рэчы ў сваіх дамах, часта патлумачыўшы словамі: “я ў гэта не веру”.*



***Ксёндз Чэслаў Паўлюкевіч,***
дыяцэзіяльны экзарцыст

*І гэта чарговая крайнасць, вельмі небяспечная. У многіх выпадках для таго, каб гэта “дзейнічала”, вера не патрэбна. Напрыклад, прынясіце дадому скрынку з кавалачкам урану, пастаўце на палічку ў серванце і не верце ў тое, што ён выпраменьвае радыяцыю… Рэзультатам будзе хвароба і смерць. Падобнае “выпраменьванне” можа адбывацца і ў духоўнай сферы, а вынікі заўсёды будуць негатыўныя. Перш за ўсё, яны знішчаюць стан шчасця чалавека ці супольнасці. Як казаў а. Руфус Перэйра, які быў, на маю думку, самым вялікім экспертам адносна пагроз для хрысціян, праўда знаходзіцца дзесьці пасярэдзіне. Не трэба баяцца ўсяго, але неабходна быць вельмі асцярожным.*

***Ангеліна Пакачайла***




***Пражыўшы нямала гадоў, я думкамі вяртаюся да мінулых падзей. Аналізую ўчынкі свае і іншых людзей, а таксама тое, што я бачыла. Магчыма, таму я так хачу, каб адмеранае Богам жыццё людзі пражывалі ў шчасці і радасці, каб былі добразычлівымі, не зайздросцілі шчасцю і радасці іншага чалавека. Як сцвярджае Вільгельм фон Кэплер, “шчасце – гэта калі іншага зробіш шчаслівым, радасць – калі іншаму прынясеш радасць”.***

*Чалавек нарадзіўся для таго, каб радавацца, бо радасць – гэта патрэба, сіла, сэнс жыцця. І гэтай радасцю, казаў Францішак з Асізі, ёсць Бог. Для нашай радасці Бог выставіў перад сваім домам сонца. Яно не абходзіць нікога, хіба толькі таго, хто хаваецца ў цень. Бог даў дзень – святло, ноч – цемру. Як жа лёгка і радасна на душы, калі свеціць сонца. І як сумна і цяжка, калі змрочны дзень. Арыентавацца ў цемры няпроста, часам нялёгка знайсці згубленую рэч. Куды цяжэй знайсці ключ, згублены ў цемры грамадства, які б мог адкрыць душы, куды б увайшоў промень сонца.*

*Змяняецца час, змяняецца мода, людзі. Не змяняюцца таямніцы жыцця і смерці. Ці задумваемся мы над гэтым пытаннем? Ці ўпускаем у свае сэрцы промень сонца, што выходзіць з Божага дома?*

*Толькі той, хто ідзе ў Божы дом з адкрытым сэрцам і чыстым сумленнем, разумее, што сапраўдную веру нічым не вымераць, яна дае надзею на лепшае, светлае, радаснае, саграве людзей і робіць іх больш шчаслівымі. Менавіта для пазнання ніколі не ўміручай тэмы існавання Бога, веры ў Яго і ачышчэння душ існуюць святары.*

*Ці лёгка быць ксяндзом? Каб адказаць правільна, трэба ўявіць сябе на гэтым месцы і ўсвядоміць адказнасць за даверануючу справу ў вырашэнні праблем, звязаных з ёй. Ксёндз – гэта гаспадар касцёла, паручыцель вернікаў перад Богам, духоўна багаты чалавек.*

*У апошні час матэрыяльныя каштоўнасці “паглынаюць” людзей. Сёння, калі мы некуды бяжым і не задумваемся аб тым кароткім прамежку часу, які адмераны нам на гэтай зямлі, мне хочацца сказаць: “Людзі, на хвілінку спыніцеся. Хай адпачне вашае сэрца і душа”.*

*Як выразна, даступна да свядомасці даносіць тэму духоўнасці ксёндз Павел Ствол у парафіі Рэпля. Пастар тлумачыць, што апрача вялікага зла, якое існуе на свеце, ёсць сонца, што з дня ў дзень узыходзіць і саграве нас святлом і цеплынёй сваіх промняў. Кожная навука ксяндза павучальная, усяляе веру, надзею, любоў да бліжняга. Пастар хоча, каб людзі ішлі роўнай дарогай, не спатыкаліся. А пры кожным падзенні (калі гэта здараецца) уставалі на ногі і дастойна ішлі далей правільным шляхам.*

*Мудры, душэўны, адказны за сваю справу, якую выконвае неабыякава, ён стараецца дасягнуць мэты і жыве надзеяй на самае лепшае ў гэтай парафіі. Бо як інакш? Без надзеі жыццё было б іскрынкай, якая адскочыла ад распаленага вугля і тут жа згасла.*

*Нічога вечнага няма, і тое, што будавалася на вякі, пачало разбурацца. Увесь гэты час святар развязвае заблытаны вузел пытанняў. Усе сумленныя парафіяне разумеюць гэта і стараюцца дапамагчы ксяндзу. Аднак часам бывае цяжка вырашыць праблему, у якой ёсць накладка момантаў. Усяго год мінуў, як ксёндз Павел Ствол служыць у нашай парафіі. А колькі яшчэ трэба часу, сіл, цярпення…*

*Часам думаю, чаму так часта ў людзей баліць сэрца? Чаму на галаве сівінкі-валасінкі? Тут, хіба, адзін адказ: “У людзей, што навокал, няма да іх добразычлівасці, душэўнай цёплай іскрынкі”.*

***Сёння, у Дзень нараджэння ксяндза Паўла, хочацца падзякаваць нашаму пастару за яго запал, старанні, мудрыя даступныя пропаведзі. Жадаю, каб ніколі не балела сэрца, не з’яўляліся на галаве сівыя валасы. Няхай добразычлівасць парафіян напаўняе энергіяй цеплыні і любові, сілай, дадае моцы для аднаўлення касцёла, які з’яўляецца прадаўжэннем памяці нашых продкаў, месцам духоўнасці і з’яднання. Няхай Бог аберагае і дае здароўе, а Маці Божая атуляе сваім плашчом.***

***Мець адданага сваёй справе ксяндза – вялікае шчасце. Я нізка схіляю галаву перад мудрасцю, якой ксёндз Павел дзеліцца з намі праз навуку. Няхай гэтая крыніца ўліваецца ў вялікую раку і цячэ бясконца, напаўняючы сэрцы вернікаў цеплынёй, любоўю і сапраўднай верай да Бога.***

*Данута Шыдлоўская, в. Альхова*

# Малітва ў духу Taize – асаблівая


На сустрэчы Taize прыязджаюць маладыя хрысціяне з усяго свету

*Малітоўныя сустрэчы ў духу Taize рэгулярна адбываюцца ў Гродне: у трэцюю нядзелю месяца ў 20.00 у касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама ў кожны трэці панядзелак у 20.00 у касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля.*

працяг са с. 1

Я ўпершыню была на еўрапейскай сустрэчы Taize. Шмат чула пра гэтыя спатканні, але не выязджала. У мінулым годзе планавала паехаць у Прагу, але, на жаль, не атрымалася. І вось я ў Валенсіі... У адказ усміхаюся валанцёрам Taize. Нас засяляюць у прыгарадзе. З сяброўкай трапляем да пажылой іспанкі. Нягледзячы на моўны бар'ер, імкнемся зразумець адна адну сэрцам.

Кожную раніцу сустракаемся на малітве з моладдзю, якая пасялілася з намі ў парафіі. Пасля дзелімся на групы. Наша суполка складаецца з французаў, немцаў, палякаў, славакаў і беларусаў. Браты Taize прапануюць паразважаць над даверам да міласэрнага Бога, шматкратным прабачэннем, сітуацыямі непакою, пашырэннем міласэрнасці, якая ўсеабдымная. Свае думкі скіроўваем да дэвіза сёлетняй сустрэчы – "Мужнасць міласэрнасці".

За жывое кранаюць сведчанні маладых людзей. Паляк распавядае пра свайго тату, які прабачыў урачам прафесійную памылку. І дадае, што кожны чалавек павінен знаходзіць у сабе сілы, каб даравать. Вострую праблему падымаюць французянкі, якія прызнаюцца, што цяжка прабачыць тэрарыстам. А пасля робяць высновы, што за такіх людзей трэба маліцца. Дзеля чаго мы, уласна, тут і сабраліся: прасіць аб міры ва ўсім свеце.

Увечары ўся моладзь збіраецца на агульнай малітве Taize. Мушу прызнацца, што ў першы раз няпроста засяродзіцца сярод тысяч вернікаў. Хтосьці перамяшчаецца, кашляе, шэпча... Але важна ахвяраваць усё друганае, штодзённае Богу і адкрыцца на Яго дзейнасць у сваім сэрцы.

Моліцца моладзь з розных канфесій хрысціянскай Царквы. Мяне здзіўляе, што некаторыя на святой Імшы сядзяць нага за нагу, пляскаюць у далоні і танцуюць у час літургічных спеваў. Гэтыя дэталі адрозніваюць вернікаў з розных краін, яднае вера ў адзінага Бога. У гэтым яшчэ раз упэўніваюся, калі ўсе разам на малітве "Ойча наш" бярэмся за рукі і, гойдаючыся, шчыра звяртаемся да нябеснага Айца.

Калі спявае хор, усё ўнутры замірае. Дрыжыкі ідуць па спіне ад прыгажосці і велічы музычных біблійных канонаў. Далучыцца да спеву на лацінцы складана, але мова не становіцца перашкодай. Душа напаўняецца думкамі, што ўсе мы – адно, і мэта ва ўсіх нас таксама адна – наблізіцца да Бога, які нас стварыў.

Малітва ў духу Taize – асаблівая. Яна згуртоўвае. Першы раз я малілася ў духу Taize на "Музычнай майстэрні" ў Івянцы гады тры таму. І яна адразу запала мне ў сэрца. Не магу апісаць словамі, трэба прапусціць малітву праз сябе. Заплануйце! Наступны раз сустрэча адбудзецца ў Рызе. Я вось, дарэчы, паеду абавязкова. За душэўным супакоем, новымі знаёмствамі, эстэтычнымі ўражаннямі. Гэта так цудоўна – адкрываць нешта новае разам з Богам.

# В защиту жизни

***Слава Иисусу Христу, дорогие Братья и Сестры во Христе!***

Сегодня очень острой является проблема абортов – проблема убийства еще не рожденных детей. Ежегодно в Беларуси проводится более 30 тысяч абортов. То есть около половины детей не доживают до момента рождения. А ведь Господь Бог выбрал мужчину и женщину в супружеском союзе для сотрудничества в рождении потомства, в продолжении своего рода. Нередко случается так, что зачатие ребенка происходит вне супружеских отношений и девушка в «благословленном состоянии», нося под своим сердцем крохотное, беззащитное создание Божье, решает идти на аборт, на убийство своего малыша. Делая аборт, она не думает о том, что у невинного создания в ее чреве, которое является личностью, уже бьется сердечко, что у него есть душа. Как жаль, что люди, совершая смертельный грех аборта, не задумываются о том, что совершают грех убийства.

Наша молитвенная группа носит название «В защиту жизни». За каждым участником группы закреплен молитвенный час в неделю. Благодаря этому наша молитва является непрерывной и постоянной. Мы молимся за детей, которые находятся под угрозой аборта, за врачей-гинекологов и весь медицинский персонал, за семьи, столкнувшиеся с диагнозом «бесплодие», желающие иметь детей. Как говорил филолог, богослов, священнослужитель Г.П. Чистяков: *«...Бог ждет от нас молитвы: в молитве мы вступаем с Ним в диалог, и именно через этот диалог Он раскрывает нам свою волю. В молитве совершается встреча с Богом...».* Господь слышит наши молитвы: сегодня можно увидеть билборды, плакаты, пропагандирующие защиту жизни; проводятся семинары и тренинги по предобортному консультированию; открываются консультативные кабинеты в поликлиниках.

*«Прежде нежели Я образовал тебя во чреве, Я познал тебя, и прежде нежели ты вышел из утробы, Я освятил тебя...»*
(Иер 1, 5)

Одна женщина свидетельствовала о том, как Господь спас жизнь ее дочери. Когда она, мама двоих детей, забеременела, муж ушел к другой. Женщина под воздействием советов окружающих решила убить своего малыша и договорилась об аборте в местной больнице. Но обстоятельства сложились таким образом, что у нее никак не получилось в этот день попасть на прием. Женщина во второй раз, в последний день 12-недельного срока, договорилась об аборте и, придя в больницу, узнала, что врач уехал за город принимать роды и сделать аборт в этот день нет возможности. С тех пор мама двоих детей решила, что никогда не убьет ребенка, живущего под ее сердцем.

Сегодня женщина говорит: *«Как же я счастлива, что моя любимая маленькая дочка увидела этот мир, сколько же радости она принесла мне. Теперь моя дочь, юная девушка, радует меня изо дня в день, говорит мне много теплых слов, помогает во всех моих делах. В момент, когда я думала об ее убийстве, Господь всякими способами останавливал меня. И я благодарна Ему за то, что он позволил мне услышать Его призыв. Наверное, кто-то очень молился о жизни моей дочери».*

Такой яркий пример спасения ребенка, находящегося под угрозой аборта, свидетельствует о силе и важности нашей молитвы.

Господь через евангелиста Матвея говорит нам: *«Истинно также говорю вам, что если двое из вас согласятся на земле просить о всяком деле то, чего бы ни попросили, будет им от Отца Моего Небесного ибо, где двое или трое собраны во имя Мое, там Я посреди них»* (Мф 18, 19–20). Господь призывает нас к совместной и искренней молитве.

**Дорогие Братья и Сестры во Христе, мы приглашаем вас на встречи нашей молитвенной группы «В защиту жизни», которые проходят каждую первую субботу месяца в костеле Божьего Милосердия на Вишневце (Гродно). Начинается встреча в 18:30 адорацией Пресвятых Даров и святой Мессой, после которой участники собираются на молитву.**

***Желающие присоединиться к совместной молитве могут связаться с нами по телефону: (8-033) 655-41-90.***




**Рымскія пекары праводзяць акцыю "хлеб гасціннасці"**

***Да акцыі ўжо далучылася каля 40 пякарняў горада. У іх выстаўлены скрынкі, куды можна пакласці хлеб, куплены спецыяльна для пілігрымаў, бяздомных, мігрантаў ці для людзей, якія знаходзяцца ў цяжкім становішчы.***

*"Кожны жадаючы можа купіць бохан або больш. Гэтыя бохана адпаведна спакаваны і пазначаны крыжыкам. А пілігрымы, бежанцы і ўсе патрабуючыя могуць атрымаць яго бясплатна", – распавёў старшыня асацыяцыі рымскіх пекараў Бернардзіна Барточы.*

*Паводле яго слоў, гэта сімвалічны жэст, які гармануе з такой вялікай падзеяй, як Юбілей Божай міласэрнасці.*




**Энцыкліку "Laudato si'" абмеркавалі ў ААН**

***15 студзеня 2016 г. у Жэневе адбылося спецыяльнае мерапрыемства, прысвечанае энцыкліцы папы Францішка на тэму экалогіі "Laudato si'". Сустрэчу арганізавала пастаянная місія Апостальскай Сталіцы пры ААН.***

*Падчас яе з дакладам выступіў старшыня Папскай рады "Iustitia et Pax" кардынал Пітэр Тарксан. На пытанне Пантыфіка "якую планету мы хочам пакінуць тым, хто прыйдзе пасля нас?", кардынал паведаміў, што надзея на будучыню Зямлі палягае на людзях, здольных становача паўплываць на сітуацыю.*

*На думку прадстаўніка Святога Пасаду, пачаткам гэтага працэсу можа стаць рэалізацыя пагадненняў, дасягнутых падчас сёлетняй Парыжскай канферэнцыі па клімаце. Па яго словах, менавіта з надзеяй на лепшую будучыню Святы Айцец прапануе канцэпцыю інтэгральнай экалогіі – экалогіі, якая ўлічвае чалавечыя і сацыяльныя аспекты крызісу.*




**Папа Францішак наведаў дом састарэлых**

***Яго там прынялі 30 абсалютна здзіўленых пенсіянераў разам з персаналам.***

*Візіт адбыўся ў межах абвешчаных Папам "пятніц міласэрнасці". Першая з іх мела месца 18 снежня, калі Святы Айцец наведаў інтэрнат і сталоўку для бедных у Рыме, дзе ён адчыніў Дзверы Міласэрнасці.*

*Нечаканы візіт Францішка стаў для ўсіх вялікім сюрпрызам і адначасова красамоўнай ілюстрацыяй яго слоў пра значэнне старэйшых людзей у Касцёле і сучасным грамадстве.*

**Кінга Красіцкая**

## Калядная сустрэча педагогаў прайшла ў Лідзе

*Настаўнікі і выхавацелі – працуючыя і тыя, хто знаходзіцца на заслужаным адпачынку – сустрэліся ў касцёле парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі (Ліда-Індустрыяльны). Сустрэчу ініцыяваў пробашч парафіі кс. Андрэй Агель.*



Падчас малітвы прысутныя мелі магчымасць яшчэ раз падзякаваць Богу за 2015 год і папрасіць на Год міласэрнасці падтрымкі ў працы. Пасля настаў самы значны момант сустрэчы – дзяленне аплаткай, якая з'яўляецца сімвалам адзінства і дабра. Дзелячыся белым кавалачкам хлеба, прысутныя складалі адзін аднаму віншаванні і найлепшыя пажаданні.

## Гурт "AVE" завітаў з калядным канцэртам у Навагрудак

*14 студзеня ўдзельнікі гурта Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі наведалі Прафесійна-тэхнічны ліцэй у Навагрудку, каб падзяліцца сваімі талентамі, якія ім даў Бог.*



Падчас канцэрту клерыкі праслаўлялі Бога і набліжалі моладзі дарогу, якую самі абралі праз паступленне ў семінарыю.

У той жа дзень гурт "AVE" разам з прэфектам семінарыі кс. Андрэем Лішко наведалі парафію св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. Там яны прынялі ўдзел у святой Імшы і выступілі са святочным канцэртам.

## Рух "Мужчыны св. Юзафа" пашыраецца

*10 студзеня 2016 г. ва ўрачыстасць Хрэсту Пана ўдзельнікі руху "Мужчыны св. Юзафа" афіцыйна прынялі новых кандыдатаў з Росі ў сваю супольнасць. Мужчыны разам памаліліся, падзяліліся сваімі перажываннямі адзін з адным, распавялі шмат рэчаў з асабістага жыцця і жыцця парафіі.*



У сённяшні час мужчыны ўсё часцей пачынаюць пераасэнсоўваць сваё прызначэнне, яны бачаць, якое месца павінны займаць у жыцці Касцёла.

"Мужчыны ўсвядомілі, што іх кіраўнік – Хрыстос, і толькі Ён, Святы Гасподзь, галоўнакамандуючы ў іх жыцці. Таму дзякуем нашым братам за адкрытыя сэрцы і шчырасць у зносінах, а таксама дзякуем нашым сем'ям за цярплівасць да нас, калі мы пакідаем іх у дзень нядзельны", – падкрэсліў адзін з удзельнікаў руху МСЮ.

## У Лідзе прайшла сустрэча членаў душпастарства цвярозасці

*На мерапрыемства прыехалі людзі з усіх куткоў Беларусі, а таксама з Польшчы, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі.*



Удзельнікі супольна памаліліся ў інтэнцыі цвярозасці падчас св. Імшы у касцёле Узвышэння Святога Крыжа. Пасля Эўхарыстыі адбылася аплаткавая сустрэча для членаў душпастарства.

Усяго калядныя сустрэчы сабралі больш за 400 чалавек.

## Кс. бп Юзаф Станеўскі сустрэўся з членамі "Маргарытак"

*Аплаткавая сустрэча членаў Апостальства прайшла ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. Яе ў чарговы раз арганізаваў кс. Валерый Быкоўскі, апякун "Маргарытак" Гродзенскай дыяцэзіі.*



На сустрэчу сабраліся члены апостальства "Маргарытка" з розных мясцін дыяцэзіі. Аплаткай з імі падзяліўся дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, які падзякаваў сабраным за кожную малітву ў інтэнцыі святароў. Іерарх адзначыў, што малітва неабходна кожнаму святару, каб ён мог добра выконваць сваё штодзённае служэнне, да якога быў пакліканы.

Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка" налічвае каля 700 чалавек: мужчыны, жанчыны, моладзь і дзеці. На сённяшні момант малітвай ахоплены амаль 200 святароў, якія служаць не толькі ў Гродзенскай дыяцэзіі, але і за яе межамі.

## Студэнты катэхетычных курсаў падзяліліся аплаткай

*На ўжо традыцыйную апдаткавую сустрэчу прыйшлі студэнты і выпускнікі катэхетычных курсаў пры Аддзеле навучання і выхавання гродзенскай курыі.*



Сустрэча пачалася святой Імшой пад кіраўніцтвам кс. б-па Аляксандра Кашкевіча ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі.

Звяртаючыся да будучых катэхетаў, бп Аляксандр сказаў: "Усім вам, каму Пан Бог даверыў асабліва ўзнёслае, хоць і нялёгкае заданне выхавання сэрцаў і розумаў дзяцей і моладзі, жадаю быць вернымі сведкамі Хрыста на сваіх месцах працы. Няхай вашым хрысціянскім сведчаннем будзе асабісты прыклад жывой веры, шчырай любові да Бога і бліжняга, а таксама штодзённага жыцця, напоўненага каштоўнасцямі Евангелля".

Пасля Імшы ў будынку гродзенскай курыі адбылося дзяленне аплаткай. Студэнты таксама прадставілі сцэнку пад назвай "Цуд Божага Нараджэння", рэжысёрам якой у чарговы раз стала студэнтка трэцяга курса Аліна Жылінская.

## Студэнты з Нігерыі выступілі з калядным канцэртам

*10 студзеня ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне студэнты Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта з Нігерыі прадставілі канцэрт калядных песень на іх роднай мове з рознымі дыялектамі.*



На сустрэчы прысутнічаў таксама душпастар моладзі кс. Антоній Грэмза. Святар адзначыў, што ў гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ўжо на працягу пяці гадоў у нядзелю праводзіцца святая Імша для замежных вернікаў на англійскай мове.

## Кс. Пятра Барташэвіча і кс. Фелікса Сароку ўзгадалі ў Адэльску і Жалудку

*Сакраментальнае служэнне гэтых адданых Богу і людзям святароў прынесла карысць сотням вернікаў. Выразам удзячнасці парафіян за ўсё дабро, якое яны атрымалі ад сваіх душпастараў, стала малітва ў 25-ю гадавіну іх смерці.*



Малітвай на магіле кс. Сарокі пачаліся ўрачыстасці ў 25-годдзе яго смерці. Парафію ў Адэльску і мясцовыя могілкі наведаў у гэты дзень Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі абп Тадэвуш Кандрусевіч, які вельмі ўдзячны спачылым святарам за тое, што яны былі для яго ўзорам і праваднікамі ў веры, натхнялі ў распазнанні паклікання.

Затым у парафіяльным касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі адбылася святая Імша, якую ўзначаліў Мітрапаліт. У набажэнстве таксама прыняў удзел дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. На Імшы сабраліся вернікі, якія і сёння памятаюць сваіх спачылых душпастараў. У гаміліі Мітрапаліт падкрэсліў, што, хаця па характары гэтыя два святары былі рознымі, яны працавалі для адной мэты – збаўлення чалавека ў вельмі складаных абставінах атэістычнага рэжыму.

Ксёндз Пётр Барташэвіч памёр у іншай парафіі – у Жалудку, дзе апошнія 23 гады свайго жыцця быў пробашчам. Там 13 студзеня адбыліся ўрачыстасці ў 25-ю гадавіну яго смерці. Памаліцца за спачылага святара прыйшло шмат духоўных і свецкіх асоб. Сярод удзельнікаў урачыстасці былі кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч, які ўзначаліў святую Імшу, кс. бп Антоній Дзям'янка і кс. бп Юзаф Станеўскі.

## Назарэтанка с. Паўла Волчак адзначыла 25-годдзе манаскага жыцця

*Юбілейная ўрачыстасць прайшла 17 студзеня ў парафіі св. Тэрэзы ад Езуса (Авільскай) у Шчучыне. Эўхарыстыю ўзначаліў кс. Мікалай Ціхановіч.*



Падчас святой Імшы с. Марыя Паўла дала сведчанне свайго манаскага жыцця і распавяла пра тое, як выглядала яе ўласная дарога да Бога.

Таксама манахіня звярнулася да прысутных дзяўчат і хлопцаў, каб, пачуўшы "голас" паклікання, яны не баяліся выбраць манаскі стыль жыцця. А бацькоў сястра папрасіла, каб падтрымалі ў гэтую хвіліну сваіх дзяцей і сэрцам аддавалі іх на прыгожую службу Богу.

Пасля святой Камуніі ў прысутнасці ўсіх вернікаў с. Паўла аднавіла свае манаскія абяцанні.

## Адбылася сустрэча настаўнікаў, выкладчыкаў і выхавацеляў Гродзенскай дыяцэзіі

*Прадстаўнікі душпастарства прынялі ўдзел у св. Імшы ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі і падзяліліся аплаткай.*



Сустрэчу душпастарства настаўнікаў, выкладчыкаў і выхавацеляў узначаліў кс. Антоній Грэмза. У гаміліі святар нагадаў пра вучэнне Касцёла аб хросце і адзначыў, што плён гэтага сакраманту трывае ў чалавеку ўвесь час і развівае яго.

Пасля Эўхарыстыі дзеці і моладзь прэзентавалі прысутным містэрыю на тэму Божага Нараджэння, у якой яшчэ раз прыгадалі атмасферу свят Божага Нараджэння, а таксама пачаткі прыгожых традыцый і звычаяў, звязаных з гэтымі святамі.

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### Ці чакаеце Вы ў гэтым годзе ксяндза з душпастарскім візітам (калядой)?




*Чарговае апытанне датычылася душпастарскага візіту ў нашых дамах. Каляда дае ксяндзу магчымасць супольнай малітвы з парафіянамі ў іх дамах і кватэрах. Большасць рэспандэнтаў адзначыла, што ў гэтым годзе, як і ў мінулых гадах, яны прымуць ксяндза па калядзе. Ёсць такія парафіі, дзе ксяндзы калядуюць раз на некалькі гадоў, і таму вернікі не маюць кантакту са святаром штогод.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



**Кс. Павел Салабуда**

*Каляда – гэта, перш за ўсё, сустрэча святара са сваімі вернікамі, але не ў касцёле, а ў іх дамах. Супольная малітва, асвячэнне кватэры і размова з душпастарам з'яўляюцца важнейшымі атрыбутамі каляднага візіту святара. Сёння ўсё большая колькасць вернікаў пачынае цаніць каштоўнасць такой малітвы, асвячэння дома, магчымасці сустрэцца з ксяндзом і задаць яму пытанні адносна жыцця. Вынікі апытання з'яўляюцца выразным пацвярджэннем гэтага. Варта адкрыць сэрца і дзверы сваёй кватэры на візіт святара, таму што такая кароткая сустрэча прыносіць вялікі духоўны плён для членаў сям'і. Заахвочваю вернікаў знайсці некалькі вольных хвілін і паклапаціцца аб тым, каб ксёндз прыйшоў з душпастарскім візітам.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**25 студзеня 1968 г.** – кс. Міхал Шымковіч, *проб. Ізабелін;*
**3 лютага 1984 г.** – а. Войцех Навачык OMI, *проб. Навагрудак;*
**4 лютага 1977 г.** – кс. Казімір Раслеўскі, *проб. Ваўкавыск-Фара;*
**4 лютага 1992 г.** – кс. Казімір Баневіч, *ген. вік., проб. Ліда-Слабада;*
**5 лютага 1910 г.** – кс. Тадэвуш Сідароніч, *проб. Белагруда.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

*II частка*

*А. д-р Андрэй Шчупал CSsR*

# Хто прыдумаў споведзь?

**Такім чынам, з папярэдняга разважання адназначна вынікае, што споведзь устанавілі не ксяндзы, а Езус Хрыстус, таму што гэты сакрамант з'яўляецца плёнам Яго мукі і ўваскрасення. Гэта твор Бога, які злучае людзей паміж сабой і з сабой. Прабачэнне грахоў з'яўляецца дарам міласэрнага Айца. Яно мае таксама касцёльнае вымярэнне, паколькі здзяйсняецца ў Касцёле і адначасова прадугледжвае абавязак паяднання з братамі і з супольнасцю Касцёла, паколькі кожны грэх парушае гэтае адзінства.**

Святар як прадстаўнік Касцёла, які ўдзельнічае ва ўладзе даравання грахоў, даручанай Хрыстом, выконваючы ролю суддзі, урача і настаўніка, павінен спачатку высветліць стан сумлення пэнітэнта. Таму неабходны згрызоты сумлення ў грэшніка, г.зн. шчырае прызнанне сваіх грахоў перад святаром. Хрыстос праз святара прабачае грахі чалавеку і вяртае яго ў адзінства з Касцёлам альбо паглыбляе гэтае адзінства.

Сакрамант пакаяння і паяднання з'яўляецца таксама дапаўненнем і працягам першай сустрэчы чалавека з Хрыстом, якая адбылася падчас святога хросту. Такім чынам, кожная споведзь – гэта таямніца сустрэчы пэнітэнта з уваскрослым Хрыстом, які адорвае спакоем грэшніка, што вяртаецца. Хрысціянін становіцца тады атрымальнікам радаснай навіны аб прабачэнні і ўваскрасае да новага жыцця. "Я не магу зразумець, – кажа адзін з урачоў, – чаму некаторыя людзі лічаць споведзь прыкрым актам пакаяння, бо я знаходжу ў ёй вялізную радасць паяднання".

Споведзь не прыніжае годнасць чалавека, а наадварот – узносіць яго да вялікай годнасці Божага дзіцяці. Святы апостал Пётр тройчы выракся Хрыста, але меў адвагу прызнацца ў гэтым і з жалем у сэрцы прасіў прабачэння. Мы ведаем, да якой годнасці яго ўзнёс Хрыстос. Інакш учыніў Іуда, таму ён скончыў сваё жыццё трагічна.

Грахі чалавека могуць быць вельмі вялікія. Паскаль калісьці цудоўна сказаў: "Чалавеча, калі б ты поўнасцю адчуў подласць сваіх грахоў, у цябе ад болю разарвалася б сэрца". Хрыстос падчас споведзі звяртаецца да кожнага: "Сыне, адпускаюцца твае грахі" (Мк 2, 5); "І Я не асуджаю цябе. Ідзі і адгэтуль больш не грашы" (Ян 8, 11); "Калі будуць грахі вашыя, як барвовае, – як снег адбялю" (параўн.: Іс 1, 18). Сакрамант споведзі з'яўляецца справай Божай дабрыні і міласэрнасці адносна блуднага сына, які кідаецца ў абдымкі Бога. Ён дае чалавеку спакой і ўнутраную раўнавагу, задавальненне і адчуванне сэнсу жыцця. Прыносіць радасць ад сустрэчы з Богам, ад адноўленай прыязнасці, ад паяднання з Касцёлам і людзьмі. Прыводзіць да адшукання або росту асвячаючай ласкі, вяртання цнот і дароў Святога Духа, чысціні сумлення, даравання вечнай кары, вяртання згубленых заслуг за добрыя ўчынкі, перамогі над сваімі залежнасцямі і слабасцямі.

Аналізуючы такія вялікія дабрадзействы сакраманту пакаяння і паяднання, мы ніколі не павінны адчуваць паралізуючага страху, які рабіў бы немагчымым падыход да канфесіянала. Мы часта баімся пайсці да ўрача ці рашыцца на аперацыю, але робім гэта для таго, каб выратаваць, можа, некалькі гадоў свайго жыцця. А ідучы да споведзі, мы ратуем для сябе вечнае жыццё.

Такім чынам, мы павінны часта прыступаць да сакраманту пакаяння і паяднання. Не трэба абмяжоўваць сябе толькі выкананнем абавязковага мінімуму – адзін раз на год у велікодны перыяд, – карыстаймася ласкамі гэтага сакраманту з нагоды свят Божага Нараджэння, Божага Цела, Усіх Святых, рэкалекцый або місій, з нагоды Дня нараджэння ці Імянін, гадавіны шлюбу і заўсёды, калі здзяйсняецца цяжкі грэх, каб стала трываць у асвячаючай ласцы. Вернікі, якія штодзённа прыступаюць да святой Камуніі, няхай практыкуюць споведзь штомесяц, дзеці і моладзь – споведзь у першыя пятніцы. Святы Айцец Ян Павел II спавядаўся кожны тыдзень. Часта, раз на два тыдні, прыступаюць да споведзі біскупы, святары, манаскія сёстры і клерыкі. Езус чакае і запрашае ўсіх: "Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас" (Мц 11, 28). Таму не адкладайма гэтай сустрэчы на потым, бо можам ужо не паспець. Адкрыйма шырока сэрцы Пану, які, магчыма, ужо так доўга нас чакае. "Божа літасцівы, змілуйся нада мной. Акажы міласэрнасць, грэх мой даруй" (Пс 51).




*Хвала Хрысту! Прашу, дапамажыце знайсці малітву аб распазнанні паклікання. Дзякуй.*

*Ганна Багдзевіч*

## Малітва аб распазнанні паклікання

**Пане, Ты пранікаеш і ведаеш мяне. Ты стварыў мяне для шчасця, дапамажы мне яго адшукаць. Пакажы мне маю дарогу жыцця. Зрабі так, каб я выбраў(ла) тое, што для мяне Ты задумаў яшчэ ва ўлонні маёй маці. Я жадаю быць Табе паслухмяным(ай) ва ўсім. Я пайду, дзе Ты мяне пашлеш. Я давяраю Табе, таму што ведаю: Ты мяне кахаеш і жадаеш майго дабра. Праводзь мяне па Тваіх сцяжынках.** *Амэн.*



### *Які год распачынаецца ў Касцёле ў Беларусі?*

*Хрыстос і надзея – амаль непарыўныя паняцці, сінонімы. Хрысціянін, які згубіў надзею, пахіснуўся ў сваёй веры. Добрая Навіна, якую прынёс Езус, датычыцца любога чалавека, усяго сусвету, і вельмі важны яе складнік: жыццё, пакуты і добрыя намкненні любога чалавека заўсёды маюць сэнс. Праўда, любоў і справядлівасць абавязкова пераможуць.*

*У гэтым сэнсе хрысціянская надзея з'яўляецца неабходным подыхам свежага паветра для кожнага, хто думае пра тое, адкуль чалавек прыйшоў на гэты свет, навошта жыве ў ім і куды з яго пойдзе пасля смерці.*

*Яшчэ восенню 2013 года Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі зацвердзіла трохгадовы цыкл падрыхтоўкі да юбілею 100-годдзя фацімскіх аб'яўленняў, які будзе святкавацца ў 2017 г. Зыходзячы з фацімскіх аб'яўленняў, год 2014 быў Годам малітвы, 2015 – Годам навяртання, а 2016 будзе Годам надзеі.*

*Фацімскія таямніцы – вобразы і словы, якія Панна Марыя перадала тром партугальскім дзецям у 1917 годзе. Тэкст трэцяга з іх быў раскрыты Касцёлам для грамадскасці ў 2000 годзе. Ключавыя словы трэцяй таямніцы – "Пакаянне, пакаянне, пакаянне!". У сваім афіцыйным тэалагічным каментары кардынал Ёзаф Ратцынгер, будучы папа Бенедыкт XVI, адзначыў, што гэтыя словы могуць быць звязаны са словамі: "Кайцеся і верце ў Евангелле" (Мк 1, 15).*

*Евангелле – Добрая Навіна – ёсць надзеяй і абяцаннем Бога, да якога Езус, Дзева Марыя і Касцёл паказваюць дарогу праз малітву, пакаянне і навяртанне. Да гэтай дарогі Касцёл у Беларусі заклікаў у 2014 і 2015 гадах і заклікае зараз.*

*Гэтая вялікая надзея, якую прапануе Касцёл, – Евангелле – дае спакой і ўпэўненасць, пераконанне ў тым, што, калі дзейнічаць адпаведна свайму сумленню, абараняць свабоду і не даваць у крыўду сваіх бліжніх, то любыя пакуты не будуць марнымі. Той, хто стаіць у праўдзе, ужо пераможца, бо ён з Хрыстом, які ёсць Дарога, Праўда і Жыццё.*

***Паводле catholic.by***

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

# Сям'я Пасцяшальскіх падарыла калядны канцэрт жыхарам Гродна

13 студзеня ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне адбыўся грандыёзны канцэрт сям'і польскіх музыкаў Пасцяшальскіх. Музычны гурт, які складаецца з 14 чалавек, прадставіў прысутным калядныя песні ў разнастайных аўтарскіх апрацоўках: класічныя, народныя, джазавыя і рок-версіі. Падчас выступу кожны з музыкантаў адзначыўся сваёй харызмай і талентам.

Горад Гродна Пасцяшальскія наведалі ўпершыню і паабяцалі прыехаць яшчэ.









*Прывітанне, Маленькі Сябар! А ці ведаеш Ты, дзе можна сустрэць Бога? Мажліва, у касцёле, на катэхезе... Так, але не толькі. Бога можна ўбачыць у кожным чалавеку, бо чалавек створаны па Яго вобразе і падабенстве. Гэта значыць, што Гасподзь жыве ў кожным з нас, у нашых блізкіх, сябрах, знаёмых і незнаёмых. Як у гэтым упэўніцца? Глядзець на ўсё з чыстым сэрцам: адкрыта і шчыра.*

***Сёння прапануем Табе паразважаць над тым, што робіць людзей шчаслівымі.***



# Снядaнак з Богам

*Жыў на свеце маленькі хлопчык, які моцна хацеў сустрэцца з Богам. Ён ведаў, што туды, дзе жыве Усявышні, дарога доўгая, таму напоўніў свой заплечнік кексамі, банкамі з ліманадам і адправіўся ў падарожжа.*

*Калі ён прайшоў каля трох кварталаў, то ўбачыў пажылую жанчыну. Яна сядзела ў парку на лаўцы і глядзела на галубоў. Хлопчык прысеў побач і адкрыў свой заплечнік. Ужо хацеў зрабіць некалькі глыткоў ліманаду, як заўважыў, што жанчына галодная, і прапанаваў ёй кекс. Жанчына з удзячнасцю прыняла салодкі пачастунак і ўсміхнулася. Яе ўсмешка была такой цудоўнай, што хлопчык захацеў убачыць яе зноў і прапанаваў жанчыне таксама ліманад. Яна ўсміхнулася яму зноў. Хлопчык быў у захапленні! Яны сядзелі там увесь дзень, елі і ўсміхаліся, не кажучы ні адзінага слова.*

*Калі пачало змяркацца, хлопчык адчуў, што моцна стаміўся, і стаў збірацца дадому. Ён падняўся, каб пайсці. Але не зрабіўшы і некалькіх крокаў, развярнуўся, пабег назад і моцна абняў пажылую жанчыну. Яна адарыла яго самай радаснай усмешкай.*



*Калі хлопчык прыйшоў дадому, мама здзівілася той радасці, якая свяцілася на твары сына. І спытала:*
*– Што цябе зрабіла такім шчаслівым?*
*Хлопчык адказаў:*
*– Я снедаў з Богам.*
*Перад тым, як мама паспела нешта сказаць, ён дадаў:*
*– Ты ведаеш, у Яе самая прыгожая ўсмешка ў свеце!*
*Тым часам пажылая жанчына, якая таксама свяцілася ад радасці, вярнулася дадому.*
*Яе сын быў здзіўлены выразам спакою на яе твары. І спытаў:*
*– Мама, чаму ты такая шчаслівая сёння?*
*Яна адказала:*
*– У парку я ела кексы з Богам.*
*І перад тым, як сын змог адказаць, дадала:*
*– Ведаеш, а Ён нашмат маладзейшы, чым я думала.*

*Якое моцнае жаданне было ў хлопчыка?*
*Каго ён сустрэў у парку?*
*Чаму вырашыў падзяліцца сваім сняданкам?*
*Чым хлопчыка ўразіла пажылая жанчына?*
*Пра якога Бога расказвалі ў сваіх сем'ях хлопчык і жанчына?*

***Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**
з нагоды 80-годдзя перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем апекі Маці Божай, усіх Божых ласкаў, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя для рэалізацыі Божых планаў, зычлівых і добрых людзей на святарскім шляху. Няхай кожны дзень Вашай душпастарскай паслугі будзе напоўнены радасцю і супакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён.
*Парафіяне і Апостальская група са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**
з нагоды 80-годдзя жадаю ўсіх ласкаў ад Найсвяцейшай Панны Марыі, Божага благаслаўлення, добрых і сардэчных людзей на святарскім шляху, шчодрага плёну на Божай ніве, здзяйснення мар, а самае галоўнае – здароўя, шчасця і шмат сіл у душпастарскай паслузе.
*З памяццю ў малітве Андрэй*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**
з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі, а св. Заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам. Жадаем здароўя, сілы, стойкасці, непахіснай веры і надзеі. Шчасці Божа!
*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Галынкі*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**
ў Дзень нараджэння складаем шчырыя пажаданні. Няхай Бог дасць Вам мноства Божых ласкаў, узмацняе ў пакліканні, бароніць, калі трэба, і паказвае верны шлях да неба. Сваім святарскім сэрцам спявайце Яму ў падзяку за службу для Хрыста, за вялікую адзнаку. А мы сваёй усмешкай Вас адорым і пажаданні ўсе свае ў малітвы ператворым.
*Удзячныя парафіяне з Торфабрыкетнага*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу**
з нагоды свят Божага Нараджэння, Новага года і Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Божае благаслаўленне спадарожнічае Вам кожны дзень, Маці Божая апекуецца Вамі, а Святы Дух адорвае сваімі дарамі і асвячае дарогу да Пана. Жадаем таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою, моцы ў абвяшчэнні Божага слова, а таксама даверу і радасці ў адкрыванні таямніцы паклікання. Няхай Вас абмінае смутак, Бог адорвае ўсімі ласкамі, дадае цярплівасці, сіл і моцы для далейшай працы з вернымі парафіянамі.
*Парафіяне і моладзь з пар. Рэпля*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя на доўгія гады, поспехаў у працы, радасці і ўсмешкі на кожны дзень, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху, а таксама ўсіх Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.
*З дарам малітвы Ружанцовае кола МБ Кангрэгацкай з пар. Рэпля*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні добрага здароўя, моцнай веры і надзеі, штодзённай радасці, дасягнення ўсіх пастаўленых мэт, Божай ласкі і дапамогі. Няхай Маці Божая ахінае Вас плашчом сваёй мацярынскай апекі, а св. Заступнік дапамагае ў душпастарскай працы і ў кожную хвіліну жыцця. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за цудоўнае абвяшчэнне Божага слова, за навуку і добрыя справы. Няхай наша сардэчная малітва будзе для Вас падтрымкай.
*З павагай парафіяне з касц. св. Роха, Грандзічы*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін! Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус няхай заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца.
*Парафіяне з Путрышкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя віншаванні. Жадаем Божага благаслаўлення, добрага здароўя, душэўнай раўнавагі, супакою ў сэрцы, дароў Хрыста, добрых і зычлівых людзей побач. Няхай цёплыя пранікнёныя словы, мудрыя казанні і прыгожыя павучанні, якія гучаць з Вашых вуснаў падчас кожнай святой Імшы, закранаюць сэрцы кожнага з нас. Няхай яны дапамагаюць ратаваць і радаваць душы людзей, а святло Вашай веры распаўсюджваецца на ўсіх і прыводзіць да навяртання тых, хто яшчэ не сустрэў Хрыста. Мы бясконца ўдзячны Вам за дабрыню, шчырую малітву, прыклад пабожнасці, памяркоўнасць, тактоўнасць, клопат аб нас. Мы заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах і дзякуем Пану Богу за тое, што Вы былі з намі. Няхай добры Бог адорыць Вас сваёй ласкай і супакоем, аддзячыць за ўсё, што Вы нам рабілі, а Божая Маці асвятляе Ваш жыццёвы шлях промнямі сваёй міласэрнасці.
*З вялікай удзячнасцю і пашанай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**
з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Прыміце віншаванні, наш дарагі Ксёндз, бо ўсе мы Вас вельмі шануем. Гарачыя малітвы мы ўзносім перад алтаром, каб Бог адарыў Вас здароўем і доўгім жыццём. Няхай келіх горычы Вас заўсёды абмінае, каб Вы маглі 100 гадоў працаваць на ніве Пана. Аддзяч, Божа, бацькам за добрага сына святара.
*Удзячныя парафіяне з Казловічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы поўнасцю даверыліся, благаслаўляе ў складанай і адказнай святарскай паслузе. Марыя, Маці святароў, няхай ахінае Вас мацярынскім плашчом і дапамагае заўсёды і ўсюды. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены радасцю і супакоем.
*З малітвай Францішканскі ордэн свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Мятліцкаму**
ў Дзень нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, здароўе не слабне, а вера ўзмацняецца ў кожны момант. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая апекуецца Вамі.
*З малітвай Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Альгімантасу Паўлікасу**
з нагоды цудоўнага юбілею 70-годдзя ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены промнямі Божай міласэрнасці і напоўнены дарамі Святога Духа. Няхай Пан Бог Вас благаслаўляе і асцерагае, а Маці Божая Адэльская ахінае сваёй мацярыскай апекай і чувае над Вамі.
*Парафіяне з Адэльска*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Віктар Мыслюк!**
Прыміце нашы цёплыя шчырыя словы ў Ваш Дзень нараджэння. Няхай Пан Бог дае Вам мноства ласкаў, узмацняе пакліканне, абараняе, калі патрэбна, і простай, вернай дарогай вядзе Вас у неба. Сваім святарскім сэрцам спявайце радасную падзяку за службу Хрысту, за вялікую адзнаку. А мы Вам сёння сардэчна ўсміхаемся і ўсе свае пажаданні ператвараем у малітву.
Няхай Найвышэйшы Святар Езус Хрыстус заўсёды благаслаўляе Вас у апостальскай дзейнасці і будзе крыніцай Вашай радасці і самарэалізацыі. Жадаем Вам, дарагі Ксёндз Віктар, каб добры Бог адарыў Вас моцным здароўем, радасцю і ўменнем пераадольваць клопаты штодзённасці. Няхай разам з моцай перамянення хлеба і віна Ён дае Вам моц перамянення людскіх сэрцаў. Шчасці Божа!
*Парафіяльная рада і парафіяне з Балі Касцёльнай*

**Паважанаму Ксяндзу Анджэю Бураку**
з нагоды Дня нараджэння прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Дзень нараджэння – гэта цудоўная нагода, каб падзякаваць за шматгадовую святарскую паслугу. Жадаем Вам, каб як душпастар Вы імкнуліся да мэты і ўвесь час нанова адкрывалі дар і сэнс паклікання. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам яшчэ на працягу доўгіх гадоў жыцця, прыносячы задавальненне і радасць ад усяго, чаго ўдалося дасягнуць, і дазваляючы паставіць яшчэ мноства новых мэт. Жадаем стойкасці і цярплівасці ў выкананні святарскай паслугі, усіх Божых дароў, апекі Найсвяцейшай Маці, сілы ў руках і чыстага агню ў сэрцы, што запаліць усё навокал шчасцем і радасцю. Мы са свайго боку асабліва ахінаем Вас сваёй малітвай, каб Бог благаслаўляў Вас і нястомна ўзмацняў сваёй ласкай і спакоем.
*З хрысціянскім прывітаннем парафіяне з в. Даўнары*

**Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка, душэўнага супакою, радасці ад выканання паслугі, а таксама здароўя, стойкасці і моцы на нялёгкім святарскім шляху. Дзякуем Вам за памяркоўнасць, добрыя словы і апеку!
*Удзячныя парафіяне з Забалаці*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланосу**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці і душэўнага супакою. Няхай жыццёвы шлях будзе благаслаўлёны, усемагутны Бог ахінае сваёй міласэрнасцю, Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе да свайго сэрца, а св. Заступнік апекуецца на працягу ўсяго жыцця. Мы памятаем пра Вас у малітве.
*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

**Паважаны і любімы Айцец Валерый Шэйгерэвіч!**
У дзень Вашых Імянін ад усяго сэрца перасылаем пажаданні здароўя і радасці ад святарскай паслугі. Няхай з дапамогай Бога і добрых людзей шчасліва рэалізуюцца Вашы намеры і планы, а Маці Божая і св. Францішак з Асізі заўсёды ахоўваюць Вас ад зла і няўдач.
*Парафіяне са Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення, здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою, моцнай веры, поспехаў у душпастарскай працы і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя вядзе Вас найлепшай дарогай да святасці, а міласэрны Езус апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень.
*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне з Вялікіх Эйсмантаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**
з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады, шчасця, радасці, душэўнага супакою, усмешкі на твары, шчодрых дароў Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Маці і св. Заступніка. Дзякуем за навуку, якую Вы так шчыра абвяшчаеце пры святым алтары, і за цудоўны прыклад хрысціянскай шчырасці.
*Парафіяльная рада і парафіяне з Галынкі*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**
з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе, штодзённай радасці і нязгаснага запалу веры. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божай любоўю і міласэрнасцю, а ўсе Вашы планы і намеры здзяйсняюцца з дапамогай Бога і св. Заступніка.
*Парафіяльная рада і парафіяне з Перстуні*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл на доўгія гады жыцця, радасці і супакою, добразычлівых людзей побач, а таксама шмат Божых ласкаў і апекі Маці Божай на кожны дзень. Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах.
*Вернікі з пар. Адэльск*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.**; **http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 326; тыраж 6600; абём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная